Galubok.Ul. Wr.I465

Pisaravy imjeniny.
Komedyja u I akce.
Mensk-I927 god.

Pisarows Namenstag.
Eine Komedie in I Aufzug.
Minsk-I927.

Б 52 081

УЛАДЫСЛАЎ ГАЛУБОК

# ПІСАРАВЫ ІМЯНІНЫ

КОМЭДЫЯ Ў І АКЦЕ

Б/А 52 081 8/5
Дзяржаўная бібліятэка БССР імені Леніна
Бібліятэка Беларускай Дзяржаўнай
Бел. адрэс 1994 г.

ВЫДАНЬНЕ ЦБ „МАЛАДНЯКА“
МЕНСК—1927

## АСОБЫ:

| | | |
|---|---|---|
| Пісар валасны | г. | 30 |
| Яго жонка | г. | 20 |
| Панас—сторaж | г. | 35 |
| Мар'я—яго жонка | г. | 25 |
| Фэльчар | г. | 50 |
| Дзяк | г. | 40 |
| Вучыцель | г. | 22 |
| Абібок—вураднік | г. | 25 |
| Лупадзёр „ „ | г. | 25 |
| Набінос—старшы вурадн. | г. | 30 |
| Сядзелец | г. | 45 |
| Яго жонка | г. | 42 |
| Біч—старшыня | г. | 48 |
| Яго жонка | г. | 42 |
| 2 музыкі | | |
| 1 статыст (хворы). | | |

## ДЭКАРАЦЫЯ

Дзея адбываецца ў кватэры валаснога пісара. Пакой, пасярэдзіне дзьверы, направа дзьверы, і на лева ад рампы вакно.

Як адчынілася заслона, на сцэне з левага боку ад рампы стаіць досыць вялікі стол, накрыты абрусом, увесь застаўлены бутэлькамі, закускамі, ёсьць там шмат талерак і паміж закусак павінна ляжаць досыць вялікая бутафорская каўбаса.

## РЭКВІЗЫТ

**Стол, закускі, выпіўкі, талеркі, бутафорская каўбаса.**

У пісара—каркаўнік.
У Мар'і—залатоўка, ручнік.
У вучыцеля—букет кветак.
У вураднікаў—гарнец гарэлкі.
У дзяка—гусь.
У сядзельца—бітае парасё.
У жонкі—жывая курыца.
У старшыні—булка хлеба, мэдаль.
У яго жонкі—вясла абаранкаў.
У музыкаў,—скрыпка, цымбалы.
У фэльчара—лучынка, гадзіньнік, табакерка.

## ТЫПЫ

Пісар—звычайны малады чалавек.
Яго жонка—таксама.
Панас—п'яніца, руды.
Мар'я—бядовая баба.
Фэльчар—аблезлы амаль што без расьліны чалавек.
Дзяк—рухавы—руды.
Сядзелец лысы, апрануты прычудліва.
Яго жонка,—апранута як мяшчанка без усякага густу.
Старшыня—з вялікай барадой (чорная) павінен быць з мэдальлю на грудзях.
Яго жонка,—грубая баба, з наміткай на галаве і цэлы лес самаробленых кветак з чырвонай і зялёнай паперы.

## ЗЬЯВА І-я

На сцэне—старажыха Мар'я парадкуе на стале, дзе растаўлены бутэлькі, закускі.

## ЗЬЯВА ІІ-я

*Уваходзіць Пісар*

Пісар. Старайся Мар'я, старайся, сягоньня мае імяніны, а разам і гадавіна нашага вясельля.

Мар'я. Ды я стараюся, панок, парадак дыхт, няхай ідуць госьці, ды п'юць на здароўе.

Пісар. Трэба клікнуць Панаса да спамогі, ён табе і бутэлькі адкаркуе, і талеркі ператрэ.

Мар'я. Талеркі як талеркі, а бутэлькі каркаваць ён майстар, як хочаце адкаркуе ці так, ці так. *(Паказвае—з каркаўнікам, ці аб далонь).*

Пісар. Ну дык пакліч Панаса, а то зараз госьці зьявяцца.

Мар'я (*да дзьвярэй*). Панас, а Панас (*голас Панаса за сцэнай*), хутчэй сюды бяжы.

## ЗЬЯВА ІІІ-я

*Уваходзіць Панас*

Панас. Я тут.

Мар'я. Памагаць будзеш.

П а н а с. Есьці, ці піць?

М а р ' я. Яшчэ чаго зажадаў. Бутэлькі каркаваць, судны выціраць *(пауза)*. Ну чаго-ж стаіш лупандзей, губу халявай скруціў, схамяніся... *(страсанула)*.

П а н а с. Што ты мяне трасеш як ігрушу, я цябе ня чую і ня бачу, пан мяне клікаў, пан мне і загад дасьць. Паночку, я ваш шчыры паслугач, кажыце—хоць у танцы пайду.

П і с а р. Памажы ты, Панас, у нас няўпраўка.

М а р ' я. Ператры перш талеркі.

П а н а с. Не наша гэта работа, але такой бяды абы ня гультаіць *(узяў талерку ў рукі, плюнуў на яе, выцірае ручнікам і выпушчае з рук)*.

П і с а р. Ты што гэта сьпіш?

М а р ' я. Рукі пасьля п'янства трасуцца.

П а н а с. Не, панок, ня сплю, талерачка высьлізнулася мякнулася аб зямлю і разьбілася, ведама шкляная рэч *(зьбірае чарапкі)*.

М а р ' я. Я бы цябе мякнула па тваёй салятырцы, але пана шануюся.

П а н а с. Не да цябе п'юць, не кажы здароў будзь *(бярэ другую талерку)*. Добра ёй паночку зьдзекі строіць, а тут *(плюнуў і выпусьціў з рук)*.

П і с а р. Ты гэткім чынам усё начыньне патаўчэш. Годзе.

М а р ‘я. Вон ганіце такога памоцніка.

П і с а р. Бярыся за бутэлькі.

П а н а с. Во гэта па нашай часьці *(узяў бутэльку стукнуў аб далонь і абліў пісара).*

П і с а р. Па якому ты, Панас?

П а н а с. Па нашаму, без каркаўніка.

П і с а р. На табе каркаўнік *(сам адыходзе ў бок).*

П а н а с *(адкаркаваў адну, другую бутэльку, азірнуўся і бачыць, што пісар у старане, адвярнуўся і п‘е).*

П і с а р. Э! З цябе дрэнны памоцнік (*падыйшоў і стукнуў правай рукой ды па левым пляч*у).

П а н а с (*папірхнуўся і зусім забрызгаў пісара*).

П і с а р. Ах, каб цябе гусак (*адыходзе ў бок і выціраецца хустачкай*).

М а р ‘я. Ён ужо памяць утраціў, не праспаўся яшчэ.

П а н а с. Мыляешся баба праспаўся і пахмяліцца хачу, ад гэтага дзервянеюць рукі і талеркі б‘юцца.

М а р ‘я. Вон пайшоў адсюль.

П а н а с. Дай залатоўку —пайду.

М а р ‘я. На табе залатоўку, толькі ідзі (*дае*).

П і с а р. Чакай Панас, ня йдзі ў шынок,

лепш выпі тут (*бярэ бутэльку, чарку, налівае і дае*).

Панас. Рад слухаць вас (*выпіў, а пасьля кажа*):

У гэтай чарачцы я шчырасьць пану слаў,
каб бог здароўя і сілы шмат паслаў,
каб пана слухалі, усе баяліся,
каб вораг плакаў, а мы сьмяяліся.
Каб пан на небе быў земскім начальнікам.
І добра нос нацёр нашым зухвальнікам.

А якая-ж смачная, калі ласка яшчэ.

Пісар (*налівае*).

Панас (*выпіў*). А характар у пана, як у нябожчыка вашага дзеда, і той вечны пакой, не шкадаваў і трэцьцяй чаркі, калі чарка за чаркай гладка коціцца.

Пісар (*налівае*). Ну, пі яшчэ, і вылазь.

Панас. Дзякую, трошкі падмацаваўся.

Мар'я. Залатоўку назад давай, выпіў-жа за дарма.

Панас. Жартуеш баба ці што? (*пайшоў*).

Мар'я. Гэта завецца помач, растоўк дзьве талеркі, выпіў са тры калішкі гарэлкі, і пайшоў, а на ноч зьявіцца п'яны як смоўж. Я ўжо манілася прасіць пана, каб пад яго якую стацьцю падвесьці, ды ў адседку на дні тры чатыры пасадзіць.

Пісар. Па службе ён спраўны, а што любіць выпіць, гэта да справы не адносіцца.

## ЗЬЯВА IV-я

*Выйшла з бакоўкі жонка пісара*

Пісар. Ну, як-жа чуешся?

Жонка. Вельмі дрэнна.

Мар'я. Нічога дзіўнага, панічка, гарадзкому чалавеку ў вёсцы жыць усё роўна, што птушачцы ў клетцы.

Пісар. Пакліч ты Мар'я фэльчара, ды па дарозе да дзяка забяжы, каб не пазьніўся.

Мар'я Фэльчар зараз прыдзе, я ўжо казала, а дзяк не запозьніцца (*выйшла*).

Пісар. Вось толькі прыжджом лета, завязу цябе ў Крым, грошай не пашкадую.

Жонка. Дзе тое лета, і дзе той Крым? Пакуль я даждуся, косьці мае спарахнеюць.

Пісар. Ну, ну, а мяне-ж ты на каго пакінеш?

Жонка. Другая будзе.

## ЗЬЯВА V-я

*Уваходзіць фэльчар*

Фэльчар. Добрага дня

Пісар. Даруй браце, што патурбаваў цябе, жонка хвора, паміраць хоча.

Фэльчар. Што гэта ён пляце?

Жонка. Праўду кажа

Фэльчар. А вось зараз спазнаем. Калі ласка адчыніце губу... вось так, язык крышку

сюды на хату, на хату (*дастаў дзераўляную лапатку з лучыны прыцісную ёй язык*), схавайце язык назад, зачыніце губу (*дастаў гадзіньнік, слухае пульс*). Шалёны пульс

А скажыце мне, кіслае і салёнае ясьцё?

Ж о н к а. Па троху.

П і с а р. Лжэць, лжэць, за апошні час, вялікі спрыт да агуркоў мае, за тыдзень капы са тры спражыла.

Ж о н к а. Як табе ня сорам лгаць?

Ф э л ь ч а р. Агурок рэч спажыўная, але вам забараняю есьці.

П і с а р. Што з ёй?

Ф э л ь ч а р. Як выглядае язык, то ў жонкі вашай—нястраўнасьць.

Ж о н к а. Бярыцёся вы распазнаваць кабету, ня ведаючы які гэта кабета твор.

П і с а р. Самы звычайны, як пісана ў ветхім завеце, Адамава рабро, райская гліна і больш нічога.

Ж о н к а. Мыляешся.

Ф э л ь ч а р. Так, так панічка, першая кабета Ева, створана богам з кавалачка рабрынкі і камочка глінкі.

Ж о н к а. І вы мыляецеся.

Ф э л ь ч а р. Да душы кажу, да душы, з райскай гліны, з якой нашы ганчары танныя гаршкі вырабляюць.

Жонка. Ня буду вас слухаць (*выйшла ў бакоўку*).

Фэльчар. Ха, ха, ха... абразілася... Ну, жарты жартамі, а трэба адыходзіць.

Пісар. Хіба пачакаўшы, а цяпер сядзі, імяніны гуляць будзем.

## ЗЬЯВА VI-я

*Уваходзіць вучыцель з кветкамі*

Пісар. Прадстаўніку граматы.

Вучыцель. Ён самы. Віншую вас з днём імянін, жычу шчасьця, добрай долі, моцнай волі, каб нікога не баяцца, бражку піць любіць, сьмяяцца, жыць з усімі ў добрай згодзе, і быць любімым у народзе.

Пісар. Як добра зложана, ні была-б то прафэсарская галава.

Вучыцель. Ну, а где-ж гаспадынька.

Пісар. А там, ні зусім здарова.

Вучыцель. Фэльчар вінен.

Фэльчар. Усё залежыць ад пульсу, калі ён роўны, паддаецца хвароба лекам, а ня роўны дарога на той сьвет.

Вучыцель. Ну, пашто так далёка.

Пісар. Лёгка сказаць на той сьвет, а сам не захацеў-бы туды, другіх выпраўляеш.

Фэльчар. А дзе гэта ахотнікі ёсьць. Нашто ўзяць наш поп сялянам кажа, што на

тым сьвеце рай, а сам як захварэў, то ўсё багацьця пралячыў, а на той сьвет не пайшоў, тут застаўся. А яму-ж браткі мае блізка сто гадоў, самая пара ў раёк пайсьці, аб якім так міла штодня ўспамінае.

Вучыцель. Лжэць стары.

Фэльчар. І я кажу (*дастаў табакерку*). Калі ласка спрабуйце, з крышталам і парфумай, фабрычная марка „Воўк“.

Вучыцель. О, як-жа длубае ў носе.

Пісар. Бо малады твой нос.

Фэльчар. І я кажу, пажыві ды на смаках спазнайся. Бывае ў непагоду пазаткае прадушыны, то хоць гармату вязі. Зараз шавыль, шавыль у кішэнь, бярэш у рукі табакеркер... ды калі чхнеш (*чхнуў*) то, здаецца, у рай трапіў: па носе нейкім халадком пацягне, на вочы сьлёзкі набягуць, а жылкі так дробна затрасуцца, як быццам у мароз гарэлкі чарку паднясуць.

Пісар. А цана якая?

Фэльчар. Восем капеек вагон, і самому таптаць трэба.

## ЗЬЯВА VII-я

*Уваходзяць Абібок і Лупадзёр вураднікі, з гарцам гарэлкі*

Пісар. Прадстаўнікі ўлады, слупы гасударства расійскага...

Абібок. Яны самыя—Рыгор Марцінавіч! Вы імяніньнік, паздраўляю, і жадаю, капу чыноў і ардэноў.

Лупадзёр. Здароўя, сілы, каб моцны быў, каб рэбры гнуў усім, хто будзе проціў вашай вышэўказанай лічнасьці.

Пісар. Дзякую, мае дарагія, суньцеся за стол *(усе садзяцца, у такім парадку: ад рампы: фэльчар, вучыцель і вураднікі).*

## ЗЬЯВА VIII-я

*Уваходзіць дзяк з гусём*

Дзяк. Благословен увесь сінадрыон і ўсе абрэтаемыя в нём. В сей достопамятный дзень жычу табе дружа шчасьця, долгодзенствія, жычу быць сільным акі дапатопный зьвер мамонт, не баяцца падазрыцельнай шацїі, быть гонітелем непраўды, вершіцелем вверенного волостнога правления и его личного состава— *(перадае гуся, а сам вітаецца з другімі).* Помоцніку сьмерці, або іначы кажучы костоправу, сеяцелю навукі, і костоломам включительно (*да вурадн.*) не осудите меня раба божьяго, елико я сяду при вас *(сеў).*

Лупадзёр. Мы не такія сярдзітыя, як на пагляд здаемся.

Абібок. У гасьцёх мы зусім іншы выгляд маем.

Дзяк. Слухай дружа: сеў я за стол, а мне здаецца, што дзесь у палісадніку,—падабраў нішто.

Пісар. Стараўся для дарагіх гасьцей.

Дзяк. Ну, а дзе-ж гаспадынька?

Пісар. А зараз выйдзе.

Дзяк (*да фэльчара*). Ну, як ваша мосьць жывіцё?

Фэльчар. Як шынкар пры шляху—ніхто ня мінае, так і ў мяне, едзе чалавек шляхам і ня мысьліць аб хваробе, а як глянуў на бальніцу, зараз каня пад пярэплаць—хваробу нашчупаў.

Дзяк. У кожнага сваё, да цябе людзі ідуць за рыцынай, а да мяне людзей нясуць за пашпартам на той сьвет.

Лупадзёр. А да нас ідуць, каб са сводам законаў азнаёміцца.

Абібок. І з высядной нашай.

Дзяк. А ў вас разрушыцель цьмы, што чуваць?

Вучыцель. Прасьвета, прасьвета і прасьвета.

Дзяк. Благословен тот, хто із не зрячего, зрячего творит.

## ЗЬЯВА IX-я

*Выходзіць з бакоўкі жонка пісара*

Жонка. О! я разумею, па трохі зьбіраюцца!..

Дзяк. З іменіньнікам, жычу любіць друг-друга акі голубі сізокрылыя, жыць да старасьці в міре і согласії.

Жонка. Дзякую, дзякую.

Дзяк (*сеў ад рампы першы*).

## ЗЬЯВА Х-я

*Уваходзяць сядзелец з жонкай з падарункамі, у сядзельца бітае парасё, а ў жонкі жывая курыца.*

Пісар. Паважанаму госьцю пану сядзельцу.

Сядзелец. Віншую, жычу сіл, здароўя, моцы ў мазгах і спрыту ў нагах.

Жонка сядзельца. І я жадаю таго самага: спрыту у мазгах, і моцы ў нагах.

Сядзелец (*пачынае вітацца ад вураднікаў да дзяка*).

Дзяк. Віночерпию, наводящему на людские чердаки умопомрачение, а на ноги шаткое, выдрыганское состояние.

Сядзелец. Пляці ты ўжо, пляці, на языку бандэролька не паложана.

Дзяк. Язык акцызу ня прызнае, для языка патрэбна гарэліца, а для бутэлькі безделица.

Пісар. Нічога-б я не хацеў, каб на бабскія языкі, ды акцыз налажылі-бы, вось быў-бы даход.

Фэльчар. Ніякага даходу.

Пісар. А чаму?

Фэльчар. На ўсякую рэч, за якую трэба плаціць даход, накладаюць бандэроль; ну скажыце вы мне, ці ўтрымаецца якая бандэроль на языку ў кабеты?

Дзяк. На языку, каторы ніколі сухі ня бывае.

Сядзелец. Рэч вядомая, што не, бандэрольку зьесьць і скажа: язык мой вольны ад налогу.

Жонка сядзельца. Я зусім не разумею, чаго вы чапляецеся да нас кабет; дзе вы бачылі, каб кабеты елі бандэрольки.

Пісар. Ды мы толькі жартуем.

Жонка сядзельца. З такімі жартамі трэба асьцярожна.

Жонка пісара. Кумка, пакіньце, у гэты дзень не павінна быць сваркі.

Жонка сядзельца. Так няхай не зачапляюць нас, кабет.

## ЗЬЯВА XI-я

*Уваходзіць старшы ураднік Набінос*

Набінос. Усім агульнае прывітаньне *(да пісара)*. Жыць і радавацца *(пры паяўленьні Набіноса, сядзячыя ураднікі ўсталі, Набінос падаў знак рукой—яны селі і Набінос сеў)*.

Дзяк. Гордость и краса наших правителей всея России, і чаму вы не старшыня?

Набінос. Я, старшы над урадн́кам́, таксама не малы чын.

Дзяк. Нам патрэбна яшчэ адна галава.

Набінос. Прыдзе, нідзе дзенецца.

## ЗЬЯВА XII-я

*Уваходзіць старшыня Біч, з жонкай. У Біча падарунак—вялікая булка хлеба, у яго жонкі вясла абаранкаў*

Дзяк. Сезам растворись, гвоздь сей волости явился еси.

Біч. Гаспадару, гаспадыньцы і ўсім—добры вечар.

Пісар. Як рады бачыць вас.

Жонка пісара. Заждаліся зусім.

Біч. Прапісаць якому соцкаму, ці дзесяцкаму гэта адно, а пажадаць свайму прыяцелю і яго жонцы—гэта другое, вось якраз у гэтым другім столькі спрыязных жаданьняў, ці ўмесьціць тваё сэрца?..

Пісар. Маё сэрца—як мех—умесьціць.

Жонка Біча. Прымеце і ад мяне тыя словы, якія выказаў мой.

Жонка пісара. Дзякую, мая добрая суседачка.

Дзяк (*да старшыні*). Соль зямлі, ўвага. Еліко не было вас помежду нас, я, грешен че-



Б А 5808/бр

ловек, пал духом і скорбіл, что наш цветнік, наша оранжерея, не может носить этого достойного имени, а теперь мы в полном составе: Саша, Маша и Татьяна, лев, лисица, обезьяна, от Арины до Грипины, от барина до лакея, от попа до архиерея, все на местах.

Біч. Можам асудзіць.

Набінос. Сто бізуноў уліць.

Абібок. У катаргу саслаць.

Лупадзёр. Галаву адарваць.

Дзяк. Отпеть і пахаваць.

Пісар. Пашто так многа, лепш вып'ем.

Вучыцель (*устае з чаркай*).

Вып'ем мы чарку, забудзем пра гора,
Засьмягшыя губы хоць чуць прамачым.
Годзе нам млеці ў зьдзеку, ў пакоры.
І так ўжо досыць век цэлы маўчым.
Дзе там пра шчасьце і долю нам дбаці
Ня скора нам гэта яшчэ дачакаць
Бяда, недастаткі, цягам у хаце
Вып'еш, дык неяк лягчэй гараваць.

Дык вып'ем за паважаных нашых гасьцей, жыць і радавацца. Урра!

Усе. Урра!

Жонка сядзельца. Кажы цяпер ты, кажы (*да гасьцей*). Калі ласка ўвага, мой муж хоча віншаваць імяніньніка.

Сядзелец (*з чаркай у руцэ*). У той час, калі мая расчыненая губа, намыкаецца сказаць колькі слоў, і мае рукі трымаюць поўную чарку царскай гарэліцы, я, шчыры паслугач цара...

Жонка сядзельца. Боўдзіла, ты ўжо зьбіўся.

Сядзелец. Няўжо зьбіўся?.. У той час калі сяляне нашы, як ваду жлукцяць гарэліцу, купляючы яе ў шынкароў, я сядзелец Быхаўскай манапалькі № 145, так абураны за гэта, так абураны, што не магу дачакацца, калі наша начальства зачыніць патайныя шынкі, і дасьць большы разгон нашай казённай краме.

Набінос. С подлінным верна.

Біч. З прылажэньнем казённай пячаткі.

Пісар. З занясеньнем у ісхадзяшчы журнал.

Дзяк. І з адпраўкаю гэтай паперы ў краму селядцы заварачываць.

Сядзелец. Няхай вам не здаецца, што я селядзец, у паперу заварачываць не прыдзецца, я драпежны.

Біч. Што ты цукерак?

Сядзелец. Я ня цукерак, а чалавек.

Біч. Ну дык не чапляйся, а кажы, што хочаш.

Сядзелец. Я шмат хачу пажадаць імяніньніку.

Біч. Валі—слухаем.



Б 52081

БССР ... імя Леніна

Жонка сядзельца. І як тут валіць, калі не даюць, і ня слухаюць.

Сядзелец. Вы, пане старшыня, ня слухаеце, а толькі перашкаджаеце, але такой бяды, зноў кажу вам, што я ня цукерак, і не селядзец, я сядзелец, каторы жадае імяніньніку здароўя, каб ён ніколі нічога ні згубіў, а знаходзіў тое, што людзі губляюць, каб ён нікуды ня зблудзіў, а ішоў бы сабе ішоў у рай Адамаў...

Дзяк Праз Іркутск, на астраў Сахалін.

Усе (*сьмяюцца*).

Сядзелец (*плюнуў і адвярнуўся*).

Жонка сядзельца. І што гэта сапраўды за мода.

Сядзелец. І я кажу, а затым, я жадаю, жадаю... чаго-ж я жадаю?

Жонка сядзельца. Бо сарвалі думку.

Сядзелец. Ага, каб пісар быў храбры як леў, а моцны як штабы ў дзьвярах маёй манапольки.

Дзяк. І несокрушым акі Давід победзіўшы Голіафа на земле Вавілонской.

Жонка сядзельца. Я на вас злую: ён колькі дзён складаў гэту прамову, ночы ня спаў развучываў, каб добра павіншаваць суседа, а вы, як той млын, лапочаце, лапочаце і лапочаце.

Дзяк. Добрага званара не саб'еш з панталыку.

Сядзелец. Ага! Прыпомніў,—дай божа, каб пісарава здароўе, плавала як курыца па вадзе.

Усе (*рагочуць*).

Сядзелец. Памыліўся, памыліўся, як гусь па вадзе, а шчасьце круцілася, як кола ў мыне. Урра.

Жонка сядзел. Дурны, дурны і дурны.

Дзяк. Дык за здароўе тых курэй, што плаваюць па вадзе (*агульны рогат*).

Фэльчар (*устаючы*). Што варта было бы наша жыцьцё, каб ня вызначыць калі такіх дзён, як гэты. Рваць людзям зубы, пхаць рыцыну, ня ёсьць уздавальненьне душы. Душа чалавека ўздаволена тады, калі ні рыцынай, ні зубамі не дакучаюць ёй. Бывае сьпіш і бачыш сон, што ўжо ня фэльчар і ўсе лекі перад вачыма не стаяць; хворыя паздаравелі, незьлячымыя паўміралі, быццам нанова жыць пачаў. Вось мне здаецца, я сплю, і ні аднэй хворай клячы няма перада мной.

## ЗЬЯВА XIII-я

*Уваходзіць Мар'я з хворым*

Мар'я (*да фэльчара*). Панок мілы, палячыце зуб хвораму, качаецца па бальніцы, аж толькі пошчак разьлягаецца.

Дзяк (*да фэльчара*). Касторка прасьніс. яшчэ адзін страждушчы нашолся.

Фэльчар. Вось табе і ўздавальненьне душы.

Дзяк. Мар'я, будзь ты в отсутствии зубодёра, зубодёром, а ты, жывая душа, шэствуй за этим эскулапом и повинуйся ей строго.

Пісар. Фэльчар зараз прыдзе.

Жонка пісара. Вядзі, Мар'я, вядзі.

Біч. Тут не бальніца, а сход начальствуюшчых ліц.

Набінос. І на аснаваньні гэтага, пастанаўленьня, выпаўзі хворы з гэтай кватэры, да асобага загаду.

Біч. Прэдпісываю, як старшыня воласьці.

Мар'я (*з хворым вышла*).

Жонка пісара. П'ю за здароўе пана фэльчара.

Фэльчар. Рад у вас быць не як фэльчар, а як госьць.

Жонка пісара. А цяпер за здароўе пана вучыцеля.

Вучыцель. Бязьмерна рад вашай прыхільнасьці.

Жонка сядзельца. Ня было-б вас, дзеці нашы нявучоныя былі-б.

Сядзелец Чакай, я скажу.

Жонка сядзельца. Ня лезь, а то як дам пад бараду, язык ушчэміш.

Сядзелец. Сабе ўшчамі.

Дзяк. Бандэроль палажы.

Жонка сядзельца. Наша дачка Ганна, а ваша вучаніца спрытна таргуе.

Сядзелец. А яшчэ спрытней грошы крадзе.

Жонка сядзельца. А яшчэ і бацька, які сорам.

Сядзелец. Э, каму там ведама хто бацька, а па другое і праўда.

Жонка сядзельца. Цьфу на цябе.

Сядзелец. Цьфу на цябе.

Біч (*з чаркай*). Па мойму прэдпісаць—адно, а выпіць—другое Таксама маўчаць і не сказаць—адно, а сказаць—другое. Хто мая правая рука? Пісар! Хто пяруном уздумае, і напіша, што самому люцыпару горача стане? Пісар! Хто мужыка наскрозь бачыць? Пісар! А хто пад мяцежнікаў стацьцю падвёў за парубку лесу? Пісар! А праз каго мне гэтага матыля павесілі...

Дык вось, маючы яго на ўвазе, як спрытнага чалавека, сам шаную яго, і ўсім вам прэдпісываю шанаваць яго.

Пісар. За словы шчырыя дзякую; пажывём і другога матыля зловім.

Жонка Біча. А я не магу зразумець цябе; то ты раз кажаш, што я твая правая рука, то пісар правая рука.

Біч. Падасінавік ты, і больш нічога.

Жонка Біча. Няхай падасінавік, але ў кош не паложыш (*да пісарыхі*). Учора прыйшоў падгуляўшы, то ліха ведае, чаго наплёў; а ты красавіца, кажа, а ты шчабятушка, кажа, а ты мая правая рука кажа, і ўсё кажа, кажа і шмат чаго казаў, а цяпер у другі бок зьвярнуў.

Дзяк. Он лишает вас доверия, а вы лишите его на лет пять взаимности.

Старш. Выразьней кажы нічога не разумею.

Дзяк (*устаючы з чаркай*). Чарка ў руцэ, а слова на языцэ, скажи мне герой гэтага сьвята, ты хочешь чуць братнія словы?

Пісар. Захвотаю.

Дзяк. Так вось і я.

Жонка сядзельца. Пятае кола ў панарадзе.

Дзяк. Прэдстаўнік сей чревоугоднической волости, не могу не сказать.

Жонка сядзельца. Ага, выдахся.

Дзяк. Пару теплых слов, табе виновнику бахусова праздненства, человек, акі ладья плавает по синим волнам океана...

Жонка сядзельца. Даруйце я не параход і плаваць ня ўмею.

Сядзелец. І я ня човен, а чалавек.

Біч. А хто кажа, што ты зьвер?

Жонка сядзельца. А вось хто.

Біч. А пашпарт ты маеш?

Сядзелец. Яна па майму пашпарту жывець, па бяссрочнаму.

Жонка сядзельца. Па зялёнай кніжачцы.

Біч. Знача ты чалавек, а не вярблюд. Кажы, слухаем.

Дзяк. Бывае, лодка, плаваючы по синим волнам океана разаб'еццa ў шчэпкі, а бывае, прыстане да берагу. Вось і я, як тая лодачка, прыбіўся к берегам вашей волости, і познахом людей доброй души.

Жонка сядзельца. Ага, спакарнеў.

Дзяк. У ваших очах я ня бачыў неправды, а бачыў огонь, яко в жертвеннике Авраама.

Жонка сядзельца. Што ён пляце?

Біч. Баба, я ўтраціў цярплівасьць, дай гаманіць чалавеку, а не то я.

Набінос. І я прысаедзіняюся!..

Лупадзер. І я...

Абібок (*драмаў над сталом—абудзіўшыся*) І я, (*да Лупадзёра*) што, каго біць трэба? (*закасаў рукавы*).

Набінос. Цябе, што мала выпіў.

Біч (*да дзяка*). Які там бачыў агонь?

Дзяк. І той агонь, які бачыў у вашых очах.

Біч. Агонь добрая рэч, а што яшчэ бачыў?

Дзяк. Прывабіў мяне мої мілыя братья, усіх я вас пакахаў своім целом.

Біч. Агнём і целом?.. разумею.

Дзяк. Усёй душой, разумением и крепостию.

Біч. Ну, чаго-ж яшчэ, знача некага пакахаў так, што аж у крэпасьць трапіў. Прэдпісываю сесьці! (*стукнуў па стале*).

Дзяк (*сеў*) Я сеў, але седзячы, шлю благодарность сядзельцу и яго жонцы за подбрехиванье.

Жонка сядзельца. Гэта што, хто па вашаму я?

Дзяк. Первоапрельская тешча.

Біч. Чула?

Жонка сядзельца. А ты патрупехлы чашчавік, не баюся такога пана.

Біч. Прэдпісываю замоўкнуць.

Жонка сядзельца. Не баюся. Гонару набраўся навесіўшы мэдаля.

Жонка пісара. Кумка, пакінь злавацъ.

Лупадзёр (*устаў*). Я распачынаю сваю рэч, каб ні здавалася, што ў галаве маёй апілкі ляжаць. Ня толькі на кірмашы мяне слухаюць калі я закамандую: асадзі назад!

і тут скажу: увага! і мяне павінны паслухаць. Рыгор Валер'янавіч! гэта кажа сверхсрочны фэльдфэбель Лупадзёр, каторы так служыў, што ні разу не стаяў пад ранцам і ня мыў падлогі ў тых неприличных местах. Ведай сабе, што я Лупадзёр, калі п'ю, то п'ю, а калі пачну рваць, то рву...

Біч. Што, цябе рваць?.. вылазь пад паветку.

Лупадзёр. Мне і тут добра.

Абібок (*пасадзіў Лупадзёра, а сам устаў*). Хто ня ведае мяне, той будзе пытацца, што за чалавек стражнік Абібок. Стражнік Абібок вядомы цэламу сьвету. Я маю за стральбу гадзіньнік, я маю падарунак ад самога цара, калі хрыстосаваўся з ім на вялікдзень.

Лупадзёр. А куды яго велічаства пацалаваў цябе?

Абібок. У шчаку.

Лупадзёр. Дай і я пацалую (*цалуе*).

Набінос. Старшы вураднік Набінос трымае рэч. Старшынство—ня муха, а чын не камар. Старшынство даецца не за тое, што ўмееш выпіць, ці закусіць. Старшынство даецца за веру, за любовь к ацечаству, за скараненьне забастоўшчыкаў, за спакой у воласьці і ваколіцах яе.

Наша воласьць—гэта бочка, а мы—жалезныя абручы; падумайце і скажыце: штоварты клёпкі без абручоў?

Дзяк. І што варты людзі бяз клёпак?

Сядзелец (*абняў і пасадзіў Набіноса*).

## ЗЬЯВА XIV-я

*Уваходзяць Панас і Мар'я абодвы п'яныя Песьня іх чулася раней за дзьвярыма*

Панас і Мар'я (*пяючы песьню*). Чаму-ж нам ня пець)...

Панас. Панас Лявонавіч Чашчавік, праўда, цёмны чалавек, але патрапіў выпіць чарку за свае грошы ў шынку.

. Панас, як самі бачыце, за адну залатовачку п'яны як грыб, а яны і за 30 рублёў п'яныя ня будуць. Тупайце, паночку, тупайце, і ведайце сабе ў Панаса знаёмасьць шырокая, Панаса ведаюць у сяле і за сялом, кум Халімон, кума Міхаліна, сват Марымон, свацьця Агрыпіна, коні, сабакі, гусі, вужакі.

Пісар. Ну годзе Панас, стой пры сьцяне.

Панас. А за стол не сяду,—не падходзячае таварыства для нас, праўда Марыля Марыляўна?

Пісар. Госьці, радуецца душа, гледзячы на гэты пекны вянок нашага поля, нашай воласьці; я, як той садоўнік, і воч ня спушчаю з вас.

Усе мы ў згодзе жывём, адзін піша, другі падпісуе, трэці пакуе, чацьверты ў вастрог мяркуе, пяты гарэлкай таргуе, шосты звоніць і хавае, сёмы галовы здымае.

Біцца мы ніколі ня біліся, і сварыцца не сварыліся; у дзень я ў воласьці пішу, а думку ў сэрцы нашу: лепш мець сто рублей, як сто друзей. Урра...

Набінос (*узяў чарку і бутэльку да Мар'і*). Мар'я, давай з табою вып'ем! (*налівае*).

Мар'я. А чаму-ж, згода! (*п'е*).

Набінос (*налівае яшчэ*).

Мар'я. А цяпер за здароўе майго пана і пані... Панок мілы, я, старажыха Мар'я ў тэй чарачцы, што выпіла, пасылала пану сіл, здароўя, і ўсялякай трасцы.

Мая справа—мясьці ў воласьці падлогу, ваяваць з мужыкамі, есьці гарачыя бліны і трымаць нос тапарышчам...

Пісар. Ну годзе Мар'я, стань ля Панаса. Госьці, а цяпер запяем.

Усе (*запяем, запяем*).

Пісар. А ў мяне і музыкі ёсьць. Панас кліч сюды музыкаў.

Панас. А яны тутка за дзьвярыма. Гэй музыкі, сюды на ігрышча.

## ЗЬЯВА XV-я

*Уваходзяць музыкі (скрыпка, цымбалы)*

Дзяк. Ітак братие, пусть голас наш аки львиный рёв наполнит звуком горницу сию. (*Запявае*) Як па рэчцы, па рацэ
Човен новенькі плыве.

Усе. Човен новы, новенькі
Струганы, кляновенькі.

Дзяк. А ў тым чоўне чаўначку
Праз Бярозачку раку

Усе. Едуць дзеўкі ноч гуляць,
Ноч Купальскую спраўляць.

Дзяк. Там дзе цёмны бор шуміць
Грамада хлапцоў сядзіць.

Усе. Ждуць дзяўчат ў паўночны час
Засьвяціўся зорак пас.

Дзяк. У небе месячык блішчыць,
Агніво, як зьмей, гарыць.

Усе. Зычны сьмех, як звон чуваць
Дзеўкі едуць ўжо гуляць.

Дзяк. Вось па рэчцы па рацэ
Човен за чаўном плыве.

Усе. Шмат іх ціхенька паўзуць,
Шчабятух дзяўчат вязуць.

Дзяк. Дым нясецца, вецер дзьме,
Раса лосьніцца па траве.

Усе. Мглой пацягнута рака
Сьпіць ў лузе асака.

Д з я к. Скрыпкі граюць, дудар дзьме
Міла моладзі ў цьме.

У с е. У небе месячык блішчыць,
Агніво, як зьмей, гарыць.

Д з я к (*у часе сьпеваў дырэгаваў бутафорскай вялікай каўбасой, якая ляжала на стале ля яго*).

Б і ч. Музыкі! Я зьмёрз, прэдпісываю раскалыхаць маю адубеўшую душу.

У с е. Польку нам, польку.

М у з ы к і (*зайгралі польку, усе, апроч дзяка, пайшлі танцаваць*).

Д з я к (*пачакаўшы*). Музыкі, пачакайце, пачакайце (*як музыкі сьціхлі*).

Един бог без греха, во гресе и меня мамаша родила (*закасаў полы, падхапіў пісараву жонку і пайшоў танцаваць*).

У с е (*як скончылі польку*). Лявоніху, лявоніху (*танцуюць лявоніху, дзяк ідзе першай парай, танцуюць усе апроч вураднікa Лупадзёра, які заснуў над сталом*).

*Вураднік Абібок пасьля танцаў нагнуў бутэльку і п'е, убачыў гэта Набінос.*

Н а б і н о с (*да Абібока*) Гэй ты, не па чарзе п'еш.

А б і б о к. Брэшаш, гаспадзін старшы, п'ём па чарзе.

Н а б і н о с (*грозна*). Ні слова, а то лыч на бок зьвярну.

Абібок. Мне лыч зьвернеш?

Набінос. Зьвярну!

Абібок (*патрос Лупадзёра*). Кум уставай (*давай біць Набіноса*).

Лупадзёр (*у помач Абібоку, валяць Набіноса на падлогу, паднімаецца крык, шум, госьці ўцякаюць хто куды.*

Дзяк (*палез пад стол*).

Панас (*на стол, хацеў праз вакно*).

Мар'я (*на Панаса*).

Фэльчар (*накрыўся крэслам сеў у куточку*).

Жонка сядзельца (*стала з нагамі на крэсла, сядзелец хваціў яе на барана і панёс*).

ЗАСЛОНА.

1918 г.
МЕНСК.

БССР Дзяржаўная бібліятэка імені Леніна

